# СМЫК БЕЛАРУСКІ

СЫМОНА РЭЎКІ
З-ПАД БАРЫСАВА.
(Ф. БАГУШЭВІЧА).

Перадрук з IV выданьня.

1922.

Друкарня А. Бака. Коўна. Ожэшко, 5/14.

# СМЫК БЕЛАРУСКІ

СЫМОНА РЭЎКІ
З-ПАД БАРЫСАВА.
(Ф. БАГУШЭВІЧА).

Перадрук з IV выданьня.

1922.

# ПРАДМОВА.

А праўду сказаў Бурачок у сваей „Дудцы“, што ўсе мы завём нашу мову „мужыцкай“ і так нічагусенька, якбы трэба! Здаралася і мне чытаць і ксёнжачкі, хоць не натта старыя, друкаваныня, нават якогась пана Марцінкевіча, але ўсё якбы сьмяючыся з нашага брата пісаны; чытаў я і так перапісаныя вершыкі якогасьці Юркі „Панскае Ігрышча;“ гдзе Юрка натта дзівуецца і якбы завідуе паном тым, каторыя можа і больш ад Юркі таго працуюць толькі ведама вучоныя, дык лягчэй і спарней. Я перапісаў і сюды тое „Ігрышча.“ ніхай выбачае пан Юрка, але далібог аж злосьць узяла, што Юрка спадабаў тое, што толькі блазну можа падабацца. Я такі і чыркнуў яму „атказ“, але так думаю, што гэта ён сьмяючыся з нашага цёмнага брата напісаў, гэтак думаў, што дурны мужык, дык ужо нічога і ня відзіць і ня знае. Ой памыліўся.

Ні раўня я Бурачку,—ён ляпей можа знае жыцьцё мужыцкае, больш можа відзяў і чуў, але так мне спадабаліся яго тыя вершы, што і я здумаў папробаваць штокольвек напісаць. Ёсьць шмат друкаваных песьняў нашага народу; пісаў Пачобут, Э. Тышкевіч, апісуючы наш Барысаўскі павет, і шмат хто спісаў іх, а шмат ёсьць і ня спісаных, але песьні ўсе тыя ні натта, каб сказаць праўду, харошыя-і нота ў іх плакучая аднастайная і песьняў вясёлых ні шмат, ды і тых ужо рэдка пачуць. Натта за хлебам народ гоніцца, а хлеба дастане дык і за крамнай опраткай і ляскаванымі ботамі гоніцца і ўсё маркоціцца! Даўней, кажуць людзі, як меньшым абходзіліся, больш мелі і весялейшыя былі. Вот я і напісаў з дзесятак песьняў „сякіх-такіх“. Граю трошкі на скрыпаццы, ну дык ніхай і мая ксёнжачка завецца струмэнтам якім; вот я і назваў яе „Смык“. Смык ёсьць, а хтось скрыпку можа даробіць, а там была „Дудка“ вот мы і зробім музыку як жыдкі, што на цымбалах іграюць.

СЫМОН РЭЎКА з пад Барысова.



# СМЫК.

Ох, дайця-ж мне смык,—
Каб усюды граў!
Хоцьбы сам я зьнік,
Абы голас даў;
Каб той голас чуць
Па усей зямлі,
Гдзе людзі жывуць,
Гдзе даўней жылі!
Выйшаў-бы я ў гай,—
Чык-чырык дуба,
Аж ён граў-бы, знай,
Як тая труба,
Што пазве на суд
Увесь Божы люд...
У астатні час
Пазаве і нас.
Хвойку-б пацягнуў,
Каб аж бор прылёг,
Увесь лес сагнуў
У барані рог;
І завыў-бы ён,
Каб усё пачуў,
І наш енк і стон
У бары-б лунуў!
Каб бярозку раз
Пацягнуў смыком
І на вечны-б час
Раўла-б мужыком!
Каб аж зёлачкі
Заігралі-бы,
Як шчыголачкі,
Засьпявалі-бы!
Як смычком-бы тым
Камень зачапіць,
Дык пайшоў-бы дым...
„Камень не сьцярпіць!“

У жарству, писок
Каб разсыпаўся,
Каб даў галасок
Аж захліпаўся!
Каб пачуў усяк,
Ды каб літасьць меў!
Каб цьвёрды размяк
Каб мяккі аж млеў!
Ох, каб мне той смык,
Каб на сэрцах граў—
З радасьцяй-бы знік,
Абы голас даў!..

---

## ПЕСЬНІ.

### 1. Удава.

Шуміць з горкі ручаёчак,
Брызгі раскідае,—
Плача ўдава сярод ночак,
Вочкі выцірае.
    Ой маркотная, ліхая
    Доля сірот-дзетак,
    Але горшая ўдавая,
    Як тых малалетак.
Ой зазнаюць гора, ліха,
Практыкі і зьдзекаў;
Будуць плакаць гэтак ціха,
Плакаць павек-векаў.
    Павек-векаў ручаёчак
    Брызгі раскідае,
    Павек ўдоўка сярод ночак
    Вочкі выцірае.

### II. Гора.

Каб мне голас добры мець,
Каб мне гора куды дзець,
Каб-жа гора Бог ня даў,—
Яб вясёла засьпяваў:
    Ой гора-ж маё!
Склаў я гора у аклунак,
Склаў бяду сваю фрасунак,
Кінуў ў рэчку аж да-дна,—
Прыйшло гора як што—дня.
    Ой гора-ж маё!

Ўзяў я гора ды ў анучу,
Кінуў ў полымя-агонь,
Ніяк гора не замучыў:—
Гора горам, як штодзён.
Ой гора-ж маё!
Ўзяў я гора ды на вожжы,
Завёў ў лес, скруціў да пня,—
Заўтра гора, як сьвет божы,
Ўлезла ў хату, як штодня.
Ой гора-ж маё!
Склаў я гора ды у дошкі,
Закапаў у велькі роў,
Адыйшоў ад ямы трошкі,
Аж у хаце гора зноў.
Ой гора-ж маё!
Завярнуўшы у салому,
Гора ў лапаць палажыў,
Абуў лапаць, выйшаў з дому:—
Гора горам,—лапаць згніў!
Ой гора-ж маё!
Склаў я гора у тарбіну,
Аж у Мэрыку адвёз,—
Думаў: тут або я згіну,
Або з гора будзя лёс.
Ой гора-ж маё!
Дык і тут німа пакою:
З горам лёг і з горам ўстаў;
Мусіць Бог яго з душою
Разам возьміць, разам даў.
Ой гора-ж маё!

---

## III. Песьня.

Аж сьмяялася сарока,
Як згарала баба гоні;
Заяц спудзіўся ад воўка,
Ад гарбы падохлі коні.
Аж лісіцы забрахалі,
Як мужык грачыху рваў,—
Ваўкі полудзень забралі,
Як ён першы сноп вязаў.
Баба люльку кура ў хаце,
А мужык пярэ кашулі,
Конь пасецца на лапаце,
А на вербе растуць дулі.

Ой, на прыпячку ў балоце
Лавіў рыбку гаспадар,
А пры выгане на плоце
Хаваў грошы аліндар.
Ой, нявестка цешчу любіць,
А сын бацьку шанаваў,
На сабакі заяц трубіць,
Вінны доўг свой аддаваў!

---

## IV. Сватаны.

Ой, калючы ялавец,—
Ягадкі салодкі;
Ой, харошы маладзец,
Дык німа малодкі.
Адгукніся ты на лес,
Ці хто не пакліча;
Ў свае п..... ня ўлез,
Можа хто пазыча.
Будзем сватаць, што такі,
Што німа у сьвеце:
Да работы бяз рукі,
А гад спаць у леце.
Што ня возьме—зробе так,
Што сьвет надзівіцца:
Кіём косе, гарэць так,
Што ў латах прасьпіцца.
Ой то хлопец! У карчме
Першы ён на лаве;
Першы зваду з тым пачне,
Хто яму не ставе.
У касьцеле на рок раз,
І то сярод ночы:
Ня прывыкшы, як у вас,
Лезьці Богу ў вочы.
А харошы, дык які!...
Толькі што бяз носу,
Аткусілі нос ваўкі,
Дык не мае лёсу.
А багаты, дык на што:
Пазычыў каранчык,
Як пазыча яшчэ сто,
То будзе чырвончык.
А разумны-ж дык як той,
Што ляжыць у ломе,

Смочка лапу да сьвятой
На пячы у доме
Нуце дзёўкі да яго,
Як мухі да мёду:
Будзе муж хоць для каго
З добрага заводу.
Ласа есьці, смагла піць,
Ня будзе атказу,
А па шлюбе жонку біць
Дык зачне адразу.

---

## V Сватаная.

Ото дзеўка, ото хват,
Што на ўсе тут вёскі:
Хоць павесь на добры лад
Дык шкада бярозкі.
Як выносе хусты праць,—
Вада усе змые,
А як прыйдзе ў поле жаць
Дык плача, аж вые.
Нажне жменю, або дзьве,—
Сусім абамлее,
Зажон рукі разадзьме
І вецер падвее.
А як пеле! Чыста так,
Што толькі на-дзіва!
Як угледзе гдзе бурак,
То кажа: крапіва!
Не карову, а быка
Ўсё даіці хоча,
А як німа малака,
Дык яна рагоча!
„Ніхай-жа іх, кажа, воўк
„Гэтыя цялушкі!
„Я у вымя тоўк ды тоўк, —
„Вымя як падушкі.
„Хоць бы каплю, хоць далі,
„А то ані капкі;
„Мусіць ведзьмы заклялі!
„Пабягу да бабкі...“
Каб ей есьці ні варыць,
Дык печы ня топе,
А так будзя носам рыць,
Есьці што ухопе,

А як ставіць гаршкі ў печ,—
З носу цякуць соплі;
Як выймае гаршкі прэч,
Дык стравы ні кроплі.
   А што прасьці, так прадзе,—
   Бурчыць калаўротак:
   Бунцік лёну так звядзе,
   Што ня выйдзе мотак.
Адна талька у хамут
Ледзьве пераскоча,
А абрыўкаў цэлы жмут
За печ завалоча.
   Як паставіць кросны ткаць,
   Дык аж да Якуба,
   А тут пара ужо жаць,—
   Вот наткала люба.
А танцуе добра так,
Як цялё з гілёса:
Парвець чыста андарак
І лапці дабоса.
   А пяець так, як сава
   Зайца выклікае;
   Аж трасецца галава
   Так яна гукае.
Ходзіць як чорт у смале,
Хоць ты адвярніся:
У вопратцы на пале
Чэрві завяліся.
   А багаства поўны мех,
   Завязаны жычкай:
   Ня сьмейціся, то ня сьмех
   Там дзеці з калыскай.
Нуце, хлопцы, я вам сват;
Яна маладая,—
Толькі цяпер пасьля сьвят
Акрайкі скідае.
   А хто возьме будзе рад
   І не параўнуе.
   Будзе дзела рабіць шмат,
   Усё дапільнуе!

## VI. Песьня.

Чаго бяжыш, мужычок?
— Паганяе мароз.
Чаму ляжыш, мужычок?

— Бо урадніка вёз,
Чаго ты пьеш, мужычок?
— Бо і хлеба ня еў.
За што ты бьеш, мужычок?
— Бо і сам тое меў.
На што ты краў, мужычок?
— Бо свайго ні знаў.
Чаму ты лгаў, мужычок?
— Бо хтось праўду ўкраў.
Чаму чорны, мужычок?
— Бо у хаце курыць.
Не праворан, мужычок?
— Бо усякі журыць.
Чаму цёмны, мужычок?
— Бо пад цёмным сяджу.
Чым бяздомны, мужычок?
— Бо чужога гляджу.
Чаму хіцёр, мужычок?
— Бо дурны, як варона.
Чаго умёр мужычок?
— Уцякаў ад „закона“.

## VII. Песьня.

Гарцуй, танцуй, пане,—
Табе хлеба стане.
Скачы, круці жвава
Налева направа!
Прадай, прадай ніўку—
Будзе на выпіўку;
Прадай, прадай злыдні—
Будзе на два тыдні;
Прадай жонку, дзеці—
Выстарча на трэцьці.
Прадай лес да дрэўка—
Будзе сьвежа дзеўка.
Прадай усё-чыста—
Будзе срыбных трыста.
Прадай сваю славу,
Прадай і Варшаву,
Прадай чэсць дочкі
За віна паўбочкі.
Бо пан будзе панам
На векі і аман!
Танцуй, гарцуй, пане,
Покі духу стане.

## VIII. Калыханка.

Люлі, сынок, люлі—люлі!
Усе курачкі паснулі,
Ой паснулі і курчаткі
Пад скрыдлачкам сваей маткі.
А ты чаго ня сьпіш, сынку,
Як-бы чуў ліху гадзінку?
Можа будзеш калі панам,
Ці вялікім капітанам,
А як матка прыйдзе ў госьці
Ой то будзе ей радосьці...
Сядзе матка ў кут на лаве,
Сын хлеб-соль прад ей паставе,
Ручкі, ножкі пацалуе,
Памілуе, пажалуе;
Пачастуе мядком сытным,
Блінком мякінькім патсітным,
Піражочкам із начынкай,
Верашачкай гарачынькай...
Люлі, сынок, люлі-люлі,
Бо ўжо курачкі паснулі...
От то будзе рада матка,—
Хоць і простая салдатка,
А усякі шапку здыме,
Як дазнаецца аб сыне.
Люлі, сынок, люлі-люлі,
Бо ўжо курачкі паснулі...
Можа будзеш калі панам,
Ці вялікім капітанам:
Людцаў Божых будзеш біці:
Цяжка будзе ў сьвеце жыці,
Будуць клясьці, як ліхога,
Прасіць сьмертухны ад Бога.
Люлі, сынок, люлі-люлі,
Бо ўжо курачкі паснулі.
Тагды матка прыйдзе ў госьці,—
Сын выкіне стары косьці,
Жабруючы пойдзе ў вёску.
Будзе прасіць Матку Боску,
Каб забыцца ей аб сыне,
Каб ня ведаць гдзе ён згніне.
Люлі, сынок, люлі,—люлі...
Бо ўжо курачкі паснулі...
Ой ня будзь ты лепей панам,

Ні вялікім капітанам,—
Будзь чым матанька радзіла,
Каб у госьці ні хадзіла,
Каб век з табой векавала,
Гаравала, працавала...
Люлі, сынок, люлі-люлі,
Усе курачкі паснулі,
Ой паснулі і курчаткі
Пад скрыдэлкам сваей маткі...

## IX. Песьня.

Весяліся, рві з капыта,
Бо шанцуе, балазе;
Як ні стане ў сьвірне жыта,—
Мукі мельнік падвязе!
    Пан заплаціць за работу,
    А накорміць ласа жыд.
    Танцуй сабе хоць да-поту
    Пі гарэлку на крэдыт...
Каса скосіць сенажатку,
Шнур сама саха згарэ;
Танцуй сабе да упадку,
Танцуй покі смык дзярэ!
    Барана ўсё завалоча,
    А пасее вецер сам;
    Ніхай пекліцца хто хоча,
    А ты сьпявай „трам-та-там“...
Ёсьць сякера—будуць дровы,
Намалоціць і сам цэп...
Выпі, выпі, будзь здаровы!..
„Абы губа—будзе хлеб“.
    Конь адбудзе і падводу,
    Напасецца дасыта,
    Ты-ж сьвяткуй сваю
        свабоду,
    Сьпявай сабе „тра-та-та!“
Кінь журыцца, гаспадарыць,—
Зямля родзіць і бяз нас,
Лепей вальцу давай жарыць,
На работу будзе час!
    Пан заплаце за работу,
    А накорміць ласа жыд,—
    Танцуй сабе хоць да-поту,
    Пі гарэлку на крэдыт!



## X. Хмаркі.

Хмаркі цёмныя, мае братанькі!
Вецер гоне вас без дарожанькі,
І нідзе-ж для вас німа хатанькі...
Атпачынеце аж у Божанькі!
Гдзе радзіліся, гдзе-ж вы хма-
рачкі?
Гдзе „тутэйшымі“ называліся?
Ляціцё ўсё, так як ярачкі...
Хоць-бы трошкі дзезатрымаліся!
Зямліродненькай знаць німа
у вас
Ні ўгалочку, ні прытулачку:
А тут вецер дзьме горшы раз-
у-раз
Ляціцё-жа вы без ратуначку!
Лятучы, сьлязой зямлю росіцця,
Аж шумяць лісткі, зелянее лес;
Уміраючы, жыцьцё носіцця,—
Усяму жыцьцё, сабе толькі
крэс!



## Панская ласка.

Густой пушчай, у марозе
Ехаў багаты пан,
Аж разбойнік пры дарозе
Затрымаў рыдван;
Ўсё забраў з грашмі ў калеце,
Забраў ўсю прыладу,
У панскай сеў сабе карэце,
А пан бяжыць ззаду!
Мароз пале пану ногі,
Цела прабірае,
А тут шмат яшчэ дарогі,
А тут дух займае.
Пан разбойніка благае
Ратаваць ад сьмерці:
Літасьцівым абзывае,
Абы ня умерці.
І разбойнік зьлітаваўся:
Кажушок даў пану,
Пасталы, што абуваўся,

Выкінуў з рыдвану.
Са сьлязамі пан бандыце
Цалаваў у бруха,—
Што ацаліў яму жыцьце
Кавалкам кажуха.
Абяцаўся і маліцца
За яго і дзетак,
Славіць добрасьць і дзівіцца,
Што ён зрабіў гэтак!
Ой, ня першы то бандыта
І пан не астатні,—
Што дабро усё здабыта
Толькі крыўдай братняй,
А тагды ужо, для славы,
Кіне хоць аб‘едкі,
Вот і стане пан ласкавы,
Літасьцівы, рэдкі!



## Ахвяра.

Малiся-ж бабулька да Бога,
Каб я панам ніколі ня быў,
Ні жадаўбы нічога чужога,
Сваё дзела як трэба рабіў.
Каб прад меньшым я носу ня
драў,
А прад большым ня корчыў
сьпіны,
Каб грэх свой прад сабой я
пазнаў,
У другіх каб ня відзіў віны;
Чужых жон каб ня вёў да
граху,
А сваю каб як трэба любіў,
Каб мне дзеці былі у слуху.
Каб я бацькам для іх век
дажыў,
Каб людзей прызнаваў за
братоў,
А багацтва сваё меў за іх,
Каб за край быў умерці гатоў
Каб не прагнуў айчызны
чужых.

Каб я Бога свайго не акпіў,
Каб ні здрадзіў за грошы свой люд,
Каб свайго я дабра ні прапіў,
І нізашта ня меў чужы труд.
Каб па двойчы мне грошы ня браць
За црадáны кусочак ральлі,
Каб сваю мне зямельку араць
І умерці на ей хоць калі.
Дык прасі-ж ты у Бога, малі,
Каб я панам ніколі ня быў.



## Скацінаяапека.

І ні спадзіваўся і у сьне ня сьніў
Што мая кабыла ды мае апеку.
Ібывала так, што і добра біў,
Як таго заслужа, ня то што для зьдзеку.
Вот былі марозы, 'здаражэлі дровы:
Я наклаў на гнедку зо-тры абярэмкі
І папхаўся ў Гродну пад-самы Рок-Новы.
Жонка дала яяк, каб купіў ціжэмкі,
Заяц быў забіты і шкурка шашкова...
І еду у Гродну я з гэтым таварам.
Дарога цяжкая і сырыя дровы,
Кабыла худая; алі з сваім дарам
Дык пхаўся памалу далей, ды далей;
Прыехаў на рынак, тут здзёрлі дзісятку,
Брамнага, ці як там, за штосьці—казалі,
Паказалі мейсца; стаў я за рагатку,—
Паня шчуп за зайца і купіла зараз.
Жыд за скурку адлічыў тры злоты.
Вот толькі з дравамі і яйкамі амбарас.
Тры бабы да яяк набралі ахвоты...
Засталіся дровы. Дзякуй табе Божа.
Аж і жыд прыходзе і таргуе дровы.
Восім злотых суле і грошы паложа.
Атскоча, патскоча, ганіць што яловы,
Даець і з дзісяткай!—„Давай кажу плату!“,
— „Вязі, вязі зараз!“ Дрыжыць як асіна.
Сам ляпіць, а гоніць; мусіць тапіць хату.
Мяне ўзяла літасьць сабачага сына.

Ганю я кабылу бічом па каленьнях;
А сьлізка, а цяжка, цесныя дарогі;
Сьнегу толькі званьня, усё па каменьнях.
Кабыла рванула і ўпала на ногі:
„Каб ты не даждала!“ А жыды сьмяюцца!..
Давай я бічіскам падыймаць скаціну.
Вот-вотжа устане, каб трошкі напнуцца.
Ну ўжо-ж устане, а дроў не пакіну!
Аж пан хап за рукі, і трэсь мяне па
твары.
„Я тут, кажа, членам,—апякун скаціны,
„А вы бьеце коні, сабачые веры?
„Вот зараз і вашай спрабуюць сьпіны“.
Крыкнуў штось так кшталтам:
„Горэ даві!“—Як тыць два ваякі!
Жыды зараз дровы расхапалі гвалтам,
А маскалі цягнуць мяне, як сабакі.
Білі, білі ў плечы, пацягнулі гдзесьці,
Аж у дом вялікі, што на ім званіца.
Адабралі грошы, а ні далі есьці;
Хоць ужо кабылы-б мне сваей дабіцца!
Прадзяржалі тры дні. „Ступай да дзя-
рэўні!
„Гдзе-ж, кажу, кабыла, і грошы,
сані?“
„Кабыла іздохла, ад пабою пэўне,
„А табе за гэта будзе наказаньне!“
Вот дык дажыўся! І зналі-б іх злыдні,
Што і над кабылай такая апека,
Што з голоду здохла прастаяўшы тры
дні,
Але біць ня можна! Мяне ж, чалавека,
Зьбілі як хацелі і дабро мне гіне,
І німа апекі нада мной ніякай.
З гэтакай апекі і нас зьядуць сьвіньні,
Ці мусім зрабіцца кусьлівай сабакай.



## БАЛЬЛЯДА.

У нашай вёсцы нябошчык Ануфры
Калісьці разумны быў і заможны.
Яго два кублы, жончыны куфры
Поўны былі,—там скарб быў рожны:

Старыя спанцэркі, жупан гранатовы,
Палотны, сукны, шапкі, спадніцы...
Дьзве пары коні, а сьвіран новы
Ламаўся ад жыта, гароху, пшаніцы.
Быў працавіты Ануфры Скірдзель,
Жонка была і дзегак кучка:
Усе прымёрлі у восем нядзель,
Толькі астаўся Ануфры, як пучка.
Сядзіць і плачыць запершыся ў хаце.
Ночь на магілках родных праводзе;
У гаспадарцы-ж страта па страце:
Зараза на быдла, пажар і злодзей..-
Скаціна пала, гумно згарэла
Коні пакралі у час рабочы,
А тут і плата на выкуп прысьпела,
Зборшчык, як дым той, лезе у вочы;
Прадаў Ануфры усю худобу,
Выплаціў выкупі, падатк і збор.
Зварыць бывала гаршэчак бобу
І жывіцца так, абы ня умёр.
Лета-даждаўшы даў Бог недарод:
Згнілі на полі збожжы і сены,
Бульба зьвялася, згінуў гарод,—
А на аплату німа перамены!
Зборшчык Скірдзеля звець на расплату
Грозіць у работу наняць на чугунку,
Прадаць і злыдні, прадаць і хату...
Бедны Ануфры! Німа ратунку!
Пазвалі у воласьць, а тут старшына
Пьяніцай лае аж дзівяцца людзі,
„Зямлю трымае, кажа скаціна,
„А плату несьці думаў ня будзе?“
Ануфры з жалю расхлістаў грудзі,
Зьняў крыжык, скінуў шкаплеры:
Глядзіця, кажа, добрыя людзі,
„Вот скарб мой—знак маей веры—
„Хіба што чорту прадам сваю душу,
„Каб грошы ён на падаткі мне даў,
„Я тут ужо згінуў і там згінуць мушу
„Бо ужо чорту і душу прадаў!“
Усе аж струхнулі. Блiснулі вочы
І сьлёзы старому сыпнуліся цуркам.
Пайшоў на могілкі, гдзе хадзіў што ночы
Там начаваў, як што раз пад прыгоркам,
На заўтра узяўшы кошык старэнькі,

Пайшоў на ройсты у пушчу
Збіраць сыраежкі, лісіцы, апенькі.
Забраўся ў заломы у гушчу,—
Аж чорт з-пад асіны вылазе
І нясе капалюх з грашыма.
Зараз Ануфры прыпомніў на разе,
Што трэба плаціць, а тут німа грошы!
Чорт паклаціўся, апенькі забраў,
Ануфраму сыпе у кошык дукаты;
Высыпаў, сьвіснуў, полы забраў...
Ануфры з грашыма вярнуўся да хаты
Зараз у валасьць усе нідаімкі,
Усе падаткі якраз аблічыў,
Купіў валы і два піразімкі,
Наеўся смагла, лёг атпачыў,
Як стаў гаспадарыць, дык родзе,
Што дзівіць усяк, паглядае...
А на магілкі кожны дзень ходзе,
І на мшу даець, бядзе спагадае:
Пажыча, даруе, гдзе трэба паможа,
Хто з стыду ня просе,— асоча,
У ночы сам грошы паложа,
І надта ня любіць, як браць хто ня хоча,
Чорт аж кіпіць, аж скрыгоча,
Што гэтак Ануфры жывець:
Ня толькі чорту служыць ня хоча,
Сьвянчонай вадой кожны раз абліець!“
Чакае чорт сьмерці: у запечку сеў.
Ануфры чытае жывоты сьвятых...
Поснай заціркі на полудзень зьеў,
Перэжагнаўся, задыхаў і сьціх!..
І чорт не паспеў заглянуцца,
Як дух той праз дзьвёры шмыгнуў,
Сеў на касьцёле і грае на дуццы!
А чорт на касцёл ні сягнуў!
З таго часу і да гэтай пары,
Як палягуць людцы атпачыць,—
Усю ноч аж да раннай зары
Чорт на чатах з далёку стырчыць
І чакае, ці дух той ня скоча.
А ў поўнач, у буру, так дзьмець,—
Аж свішчыць, аж выець, гагоча,
Аж кавалкамі гонты ірвець...
Тагды дух раскалыша званы,

І як толькі каторы дзылінкне,
(А па звону баяцца-ж яны)
Так і вецер і чорт разам знікне“



# Жыдок.

Сеў жыдок у нас у вёсцы,
Пры гасьцінцы, пры дарожцы.
Меў ярмулку, трэпкі, цыцаль,
Ў балахоне новы гіцаль,
Шэсьць дзяцей ад жонкі Рохлі,
Поў асьміны меў картоплі,
Дзісянцёра, столік, шафку,
Зо дьзве чаркі і карафку,
Самаварчык і трыножкі,
Адну шклянку, цурку трошкі,
З двому днамі меў поўкварты...
То маёнтак быў,—ці жарты!
Гадкоў со тры пашынкарыў,
Бог яшче дзяцей прыдарыў,
Жыд прыдбаў кароў з дзісятак,
Панастроіў хляўкоў, хатак,
Купіў коніка, павозку,
І стаў панам на ўсю вёску.
У ватласах, пры загарку,
Наняў сабе і кухарку.
А яна ў едвабнай хустцы
Сядзіць толькі на падушцы.
Пярвей жыда звалі Бэрай,
І паршыўцам і халерай;
Потым звалі ягомосьцям,
Жыд стаў першым ў хаце госьцям.
Пярвей ён даваў паклоны,
Потым кланяўся хрышчоны.
А цяпер ідучы міма
Ўсякі шапку яму здымя
І цалуе аж у рукі
От якія выйшлі штукі!
Ён знаемы з адвакатам,
Ён заплаціць там дукатам,
Гдзе нам сотня каштавала,
А на нашым-жа ні стала;
Ён с судзьёю, ён з маршалкам,

Ён с пасрэднікам... Як валкам
Круце імі, усё зробя,
Табе добра й сам заробя;
У бядзе ён і пазыча.
А адробіш—ён заліча.
Добры жыд. Хоць грошы любіць,
А згубіць зусім—ня згубіць.
Каб такі нам пан сыскаўся,
То-б сьвятым ён называўся.



## Ня ўсім адна сьмерць.

Жыў пан у палацу,—багаты—:
Ня мог палічыць сваіх грошы,
У склепе, як бульба, дукаты...
А пан з яго быў ніхарошы.
А жыў у раскошы вялікай:
Захоча бывала, каб гралі,
Дык цешаць яго і музыкай;
Захоча каб, людзі скакалі,
Дык скачуць бывала, пьюць і ядуць...
А плакаць—дык плакалі многа.
А часамі плакаць не так-то дадуць.
А пана баялісь як Бога.
А піў ён а ей! Дык а Божа!
Каб на той хлеб зарабіў
Дык за раз гадоў тры ён можа
Сваей працы у міску убіў.
Еў, ды піў, ды крыўдзіў народ,
Ды грошы зьдзіраў, гдзе прымог.
Мусіць думаў: тут вечны жывот!
Аж іначай падумаў сам Бог.
А у хаце-ж крывой жыў мужык,
І калекі быў ён, і хварэў,
Хата ў дзюрах, як лапаць ды з лык,—
Сам па дні два нічога ня еў.
Калісьсі быў кажуць натта ліхі.
І першы падліза у пана;
Былі на душы усякі грахі,
І пекла даўно абецана.
А жыць было цяжка, бядота,
Людцы праклінаюць за штосьці.
Каму-ж гэтак жыць ёсьць ахвота,—
Ніколі ніякай радосьці?

Тымчасам у пекле дык чэрці
І хаму і пану прызначылі кут.
Пытаецца чорт у цётанькі-сьмёрці::
„Калі ім абодвум будзе капут?“
У Чвартак Чысты была калейка
Скончыцца пану і хаму,
Каб без звону душа зладзейка
Стала ў пякельную браму.
Паслалі чорта (трохі храмога),
Каб душы абедзьвя ён разам
Проста да чорта старшога
Прывёў з чартоўскім указам.
Храмы чорт паляцеў перш у хату;
Глядзіць аж мужык за сталом,
На дзюру ў кажусе кладзе лату,
Потым хату мяце памялом...
Чорт раздумаў-ня хутка умрэ!
Пабягу я да пана дагляну.
Прыляцеў, аж сьмерць пана бяре;
Дактары сьцерагуць, лечуць рану:
Што па горле касой сьмерць чыркне,
І ні знаць, ці касіла, ці не,
Зараз рану загояць як-ніц!
Умарылася сьмерць, пан раве,
Уміраць ані мысьле сабе;
Аж кашулю парваў, коўдру рве,
І ўсё грошы пад бруха грабе.
Калі дзынь-дзылінь! шусьць ксёндз прыйшоў!
Сьмерць касой як махнула с пляча
Пан як рэзаны вол, так зароў,
Чорт душу ухапіў згарача
Іківае на сьмерць, каб ісьці
Забіраць мужыка, бо змеркла,
А яму-ж трэба душу нясьці,
Прад пауночай, каб стаць аж у пекла
„А ты хіба яго не запёр?
„Я-ж пярвей мужыка апрастала—
Кажа сьмерць-ён дык лёгка умер,
„Клікаў сьмерць, бо хлеба ні стала,
Ён прад тым і у споведзі быў;
„Уміраў, як заснуў, ані пікнуў!
Чорт са злосьці сабакай завыў,
А тут старшы яго зараз клікнуў,
Чорт, панскі хапіўшы дух, знік;

Мужыцкі-ж валочыцца той дух,
Не мае прытулку нігдзе той мужык,
А пан ідзе у шчот у пекле за двух.
А чорт за упуск душы-бядоты,
Што за сьмерцьцю ня йшоў ён сьлядом,
Сасланы ў рыштанўскія роты
Пад пякельным чартоўскім судом.
Сьмерць за тоя, што ў хату ідучы
Душу забіраць, ня клікала чорта,
Праз тры дні смактала анучу
І ў халоднай сядзела запёрта.



## Ня чурайся.

Ня чурайся мяне, панічок,
Што далонь пакрываюць мазолі;
Мазоль-працавітых значок,
Ні заразіць цябе ён ніколі,
То мэдаль за труды і за мукі,
Не хвароба якая з заразы.
Не стыдайся падаць ты мне руку,
Бо на гэтай руцэ німа сказы!
Эй, сьмялей аткрывай галаву
На паклон мой табе да зямлі;
Я твеёй галавы ні сарву
І маёй, вы-б паны, ні ўзялі.
Ня уцякай ад маёй ты сярмагі,—
Мне ня стыдна у ёй ані чуць,
Вот твой храк я на меўбы адвагі,
Чортаў храк на сябе апрануць.
На кашулю глядзіш крывым вокам
Што у хаце мне бабы пашылі,
Прапацела яна маім сокам,—
Цэлы тыдзень яе не памылі...
А твая-ж, як той сьнег, як папер,
І пацеў хто і ткаў і бяліў,
І хто шыў і хто праў... а цяцер
Ты той пот на сябе узваліў!
У кашулі той мне была-б стыдна,
Што ні сам на яе гараваў,
Хоць бялейша яна-ні завідна—
Ні вазьму, каб ты мне дараваў!
А кінь вокам на хату маю:

І цячэ, і гніе, і крывая,
У серадзіне гной, і стаіць на гнаю,
І дзіўлюся я сам, як трывая?
Ня дзівіся, панок, як жыву,—
Мне ніхто ні памог будаваць,
Хоць лянівым у сьвеце слыву,
А магу сьвет карміць-гадаваць.
Ты-ж пазнаў, што у ксёнжках стаіць!
А там розуму шмат ад вякоў
І ўсё можыш па ксёнжках рабіць:
А гдзе-ж ксёнжка для нас мужыкоў?
Гдзе-ж нам розуму столькі набраць?
Знаем толькі загон ды саху,
І жывем, каб касіць, ды араць,
Ды жывем мы у божым страху,..
Каб умеў кіраваць я пяром,—
Я-бы ксёнжку счыркаў, як папар,
Я-б аб тым, як мы сеім, аром,
І як косім, і жнём божы дар.
Можа-б ты прачытаў той грымзол
І да працы набраў-бы ахвоты,
Шанаваў-бы мужычы мазоль,
Ня чураўся-б мужыцкай бядоты,
І падаў-бы руку мне сьляпому,
І давеў-бы мяне да дарогі
Не блудзіў бы і я сярод лому
І калючак, што ранюць мне ногі!
Ой ранюць і ногі і сэрца,
У сэрцы ненавісць, злосьць родзюць,
Дзержаць у тваёй паняверцы,
Да здрады вядуць, ад праўды адводзюць!..
Даруй-жа сьляпому, што ходзіць ён крыва,
Даруй, што ня відзіць, хоць плача.
Абмацкам ходзюць сьляпыя-ня дзіва.
Відзючы-ж у яму як скача!



## Панская Ігрышча.

(Юркі).

Каб ты ведаў, брат кумішча,
Што учора бачыў я?
У паноў было ігрышча
Ды якоя, ай—я—я!

Вот ігрышча дык ігрышча,
Ні такоя, як у нас:
На цымбалах біў жыджішча,
Як калом, дык вот якраз!
Два жыдкі у скрыпкі валюць,
Трэці парх у дудку дьзмець,
А ўсе разам як засмалюць—,
Ажно цябе затрасець!

Было яшчэ і скрыпішча
У—абхват будзе якраз,
На ей бас дык вот басішча,—
Як аборына у нас!

Музыканты, як прыўдаруць
Усе разам казака.
Дык у вочах цёмна станіць,
Аж забудзішь языка.

Бьецца сэрца, як цапамі—
Дрыжаць ногі пад табой,
І у танец ідуць самі—
Проста самі між сабой.

А паноў? дык, як на сходзе,
Калі член прыедзя сам.
Ўсе прыбраўшыся па модзе
Але-ж як? і... куды-ж нам?

Панічы ўсе прыбраны,
Ўсе ў куртках, як адзін:
Рукавічкі маляваны,
Боты вострыя, як клін.
Акуляры-ж кожны носіць,
Вісяць тут пад барадой,
Іншы ушчаміў на носі
Танцуючы з младой.
А кашулі—ляскаваны,
Але-ж белыя, як сьнег!
Зарукаўкі пазьвіваны
І з гузамі, як гарэх.

А паненька-ж? твар як трэба,
Але-ж вопраткі, хвігуры...
Ну, ні ядуць мусіць хлеба,
Адны толькі канфітуры!

Ні якога німа складу:
Жыватоў у іх німаш,
Але стырчыць штосьці ззаду—
Толькі езьдзіць на кірмаш.

Ні то конская кульбака;
Ні то кашель, ні жаўлак,
Ці пузыр з-пад андарака..
Ну, няведама ніяк.
Адзін паніч ня тутэйшы,
Мусіць з места ён ці што:
Ад усіх быў найстрайнейшы
І прыгож сабе нішто.
Закрычыць, каб мусіць вальца,
Ці якога жыд стаў граць,
Жыд стары мыргельць на мальца
А той давай ўсім міргаць.
Глядзі струны нацягаюць,
Іншы ў дудку зачне дуць,
Тагды разам як зайграюць
Як завалюць, як дадуць.
Калі панічы ускочуць.
Пагавораць між сабой,
Да паненак штось балбочуць,
І пашлі так, як на бой.
Тыц, усталі і паненкі,
Кожны бяре, яку хоча,
І абняўшы за сукенкі
Сярод хаты павалоча...
І давай па двох круціцца,
Як мяцеліцу у нас,
Аж у вачах мігаціцца.
Так дрыпочуць іншы раз.
Пасьля паны, як заселі
За сталамі чыста ўсе,
Дык пілі, пілі, а елі,
Дык ніхай іх пранясе!
Вот каб гэтак мы гулялі
І так пілі, і так елі,—
Я-бы ценгля быў на балі
Ад нядзелі да нядзелі!



## Атказ Юрцы на „Панскае Ігрышча".

дурны-ж ты, як мядзьведзь,
Здзіваваўся і чаго?
Жыд у дудку сваю дзьмецъ,

А пан скача ля яго.
То ня дзіва, толькі стыд
І нам ўжо грае жыд.
Табе-ж лыдкі задрыжалі,
Як пачуў жыдоўскі смык;
Дзякуй, што скакаць ні звалі,
Дзякуй Богу, што мужык.
Шак паном усё ігрышча,
Бо німа чаго рабіць:
Жыд усё ў дудку сьвішча,
А пан ножкамі драбіць.
А што вопраткі дзіўныя,—
То-ж паном і трэба так;
Жыд сабе полы прышые,
Дык для пана выйдзе храк.
Жыд у цёцлай шапца ходзе,
Пану-ж даў свой капялух;
Вот і выйшла, што па модзе:
Пан у жыда мае слух.
А шклы тыя—для туману,
Праз іх глядзіш, як у дым,
Жыд сумысьля даў іх пану.
Каб зрабіць яго сьляпым.
А што ценкія паненкі,
А высокі у іх зад,
Ото-ж розум у іх ценкі,
Дык і выйшаў такі склад.
Сам ты відзіў—жыд міргае,
Бьець ў цымбалы, цягне смык,
А пан пот свой пралівае,
Як на паншчыне мужык.
А што паны ядуць ласа,
І што смагла могуць піць:
Ото солюць сваё мяса,
Бо ўжо стала чыста гніць!
То брат панскія задушкі:
Ўсё праелі, прапілі,
Цяпер жыдам ідуць у служкі,
І нас цягнуць, каб ішлі.
Ото-ж, дурню, ня дзівуйся,
„Анёл Панскі“ гавары,
Кажы: „Божа ты злітуйся!“
„А жыдоў чорт пабяры!„



## Свая зямля.

О, памагае зямля шмат
У кожнай хваробе сваяǃ
Я-ж не стары запасны салдат,
А гэта ведаю добра і яǃ
Нашая вёска „Сялевічы“ звецца.
Былі уніяты калісьці дзяды.
Добрая вёска: стаіць пры рэчцы
І жывуць людцы у нас без бяды.
На дровы ня трудна і выганы ёсьць,
Але за веру дык цярпелі ні мала,
Асэсар зганяе зьдзірае, і муча нас досьць,
А поп сабе такжа дзярэць з нас, бывала.
І як толькі, бывала, званар той зазвоне,
Дык тут, як з зямлі асэсар і тыцǃ
І гвалтам з хат цягне у цэркву гоне,
Проста на сьвеце ня можна і жыць.
Але ня доўга, народ прыхітрыўся:
Кожны ў нядзелю раненька устане
Апрануўся, абуўся, памыўся
І марш у лясы, як паны на паўстаньне.
А там у пушчу гдзекольвяк зьбяруцца,
Чытаюць малітвы і плачуць шчыра;
Скончуць маліцца і разыдуцца
Вот і уся была тут іх вера.
Самі сябе хрысьцілі з вады,
Жаніліся так, што бяз шлюбу...
І многа, многа было з тым бяды
І многа людзям шло на згубуǃ
Прышлася калейка мая у салдаты;
У воласьці нашай прыймалі.
Ведама плачуць усе з нашай хаты,
А і чужыя слязамі жагналі.
Матка шкаплерык дала на дарогу,
Бліночкаў с цэду з саланінай.
Я памаліўся нашаму Богу
І еду ў набор той з старшыняй.
А чуў, што ў чужой старане
Натта маркотна па роднай зямле;
А сэрцэ млее, што возьмуць мяне.
Ні дарма старшыня з салдатам прыйшлі.
Плачу я сьлёзна і думаю так;
Зямлі-ж і з сабой мне можна узяць...
Узяў у кішэнь, так грудку з кулак

І палягчэла зараз, як слова сказаць
Здалі ў салдаты: „Ступай прысягаць
На вернасьць“. Ой не, кажу, пане,
Я каталік, гатоў памагаць
І людзям і царv даю абяцаньне,
Але прад Богам сваім, у касьцеле
Як Бог прыказаў, у сваей веры;
Бо Бог у мяне у сэрцы тыкеле.
А вашаму Богу дык трэба паперы!
Здзіваваліся ўсе! „Ці здурэў,
Ці ты, кажуць такі і з малога?
Шак і цэрква табе то ня хлеў?..
Ўсе цара аднаго мы і Бога“
„Так кажу, так каталіцкая-ж вера
Іншы ад рускай мае парадак;
Я прысягну вам і шчыра,
Але па свойму і без дакладак.
Тузалі доўга мяне і ганялі,
І поп навуку мне гаварыў,
А я дзяржаўся болей ды далей
І сам замучыўся і іх задурыў.
Такі-ж запісалі, што я каталік
І прысягу даў у касьцеле!
Да службы якось хутка прывык,
Гадкоў з дзісятак служыў тыкеле.
Але саслалі мяне за кару
За тысячу міль! Вун аж куды!
Ня быць і з целятамі там Макару
Там не заходзюць нават жыды!
Там зімой дык сонца німа,
А летам дык жыць не даюць камары;
Хоцьбы клапаць, толькі зямлі пушча сама,
Ды балоты, ды ройсты і мшары...
А пошасьць ак пойдзе на люд,
Дык мруць; як атруту узялі!
Умёр бы то мусіць я тут,
Каб ня жменька тэй роднай зямлі.
Як пачне разбіраць і мяне,
Дык шчыпту яе у вадзе
Глыкнеш, дык пот аж ліне,
І хваробу рукой развядзе!
А другім што даваў, дык і не!
Ні памог і ня шкодзіў нікому.
Бо зямля ні па іх, а па мне.
Н трэба зямлі мець аж з дому.

Яна давяла і да дому мяне,
Бо і ёй на чужой старане
Так ня хочыцца быць як і нам
Дык таскуе, як мы, яна там!



## Сьвіньня і жалуды.

Сьвіньня, наеўшыся пад дубам жалудоў,
Заснула смагла, пачасалася,
І, так як іншы між людзей,
Лычом карэньня дакапалася.
Рве карэньня, капае ямы.
„Што робіш?“—з дуба сокал кажа:—
„Гэтак зглуміш і дуб самы,
„Як падкапаіш—ссохне, ляжа,“
„Дык што, ніхай хоць згініць,
„Абы мне жалудоў пад‘есьці!
„Іх натта любюць сьвіньні.“
Зарохкала сьвіньня урэшці.
Дуб сакалу так гамане:
Сьвіньня сьвіньнёй заўсягды.
„Яна ня відзіць, што на мне
„Гадуюцца ей жалуды!“



# СПІС







